


## З фокусамі і без

***Брэст.*** Дырэктар прадпрыемства па аптовым гандлі будаўнічымі матэрыяламі нечакана адкрыла ў сабе талент ілюзіяніста і віртуозна прадставіла квартальны бухгалтарскі баланс за 2016 год. У банку паглядзелі на выдатныя фінансавыя справы фірмы і без лішніх слоў выдалі крэдыт на 190 тысяч рублёў. Між тым, таварыства было стратным...

Кантралёры высока ацанілі здольнасці аматаркі выдаваць уяўнае за сапраўднае і ўзбудзілі ў адносінах яе крымінальную справу. Без усялякіх фокусаў.



## Стратная хлусня

***Баранавічы***. Нездарма сцвярджаюць, што хлуснёй багаты не будзеш. Тым не менш, менавіта такім чынам меркавала разбагацець адна сямейная пара. Муж з жонкай рэгулярна ездзілі ў Латвію і здымалі грошы з банкаўскага рахунку падкантрольнай ім кампаніі, зарэгістраванай у Вялікабрытаніі. Усяго за 2013–2017 гады яны атрымалі 400 тысяч еўра і 140 тысяч долараў. Падатковую інспекцыю ніякімі дэкларацыямі сямейны хаўрус не турбаваў...

Але разбагацець не атрымалася: за хлусню давялося заплаціць і падаткі (больш за 120 тысяч рублёў), і пеню.

## «Дзякуй» і… пачакай!

***Гродзенская вобласць.*** Кажуць, што за «дзякуй» пірага не купіш. А малака?..

Летась за абяцанкі-цацанкі дырэктар расійскай фірмы атрымаў ад беларускіх вытворцаў багата рознай малочнай прадукцыі. Ад Дзятлаўскага сыраробнага завода і Ваўкавыскага ААТ «Беллакт» — на сумы звыш 10 і 1,7 мільёна расійскіх рублёў адпаведна. Бізнесмен напрамілы бог абяцаў разлічыцца, але замест грошай даўнія партнёры атрымалі паведамленне спачатку аб ліквідацыі, а потым і банкруцтве фірмы.

Што ж, няхай ды пачакай — Божа, не дай. Хто ж адкажа за шчодры беларускі малочны «дзякуй», вырашыць следства.



## Рамансы і фінансы

***Браслаўскі раён.*** «Мы выбіраем, нас выбіраюць. Як гэта часта не супадае!..» — спявалася ў рамансе «Чорнае і белае». Радкі песні нібы апісваюць гісторыю, якая адбылася з работнікамі аднаго сельскагаспадарчага прадпрыемства.

Дырэктар дзяліў грошы паміж падначаленымі не згодна з адпаведным палажэннем і калектыўным дагаворам, а... як хацеў. Таму адны работнікі атрымлівалі да 100 рублёў, а іншыя мелі добра «павышаную» зарплату. За два гады першыя не далічыліся 80, а другія незаконна атрымалі 10 тысяч рублёў.

Аднак прывыкаць да несупадзення супрацоўнікам больш не трэба: у адносінах кіраўніка ўзбуджана крымінальная справа. Раманс праспяваны...



*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*

## *Шаноўныя чытачы!*

Рэдакцыя часопіса «Вожык» знаходзіцца цяпер па новым адрасе:
220034, г. Мінск, вул. Захарава, д. 19.
Тэлефон: 244-92-37.
Пішыце, тэлефануйце, заходзьце!
Чакаем новых твораў!

*Свой астатні грошык*
*Не шкадуй на «Вожык»,*
*Бо настрой харошы*
*Даражэй за грошы!*






**З 65-гoддзем** *Міколу (Мікалая Міхайлавіча) МЯТЛІЦКАГА – вядомага паэта, перакладчыка, публіцыста, журналіста.*

*Землякі пісьменніка – ураджэнцы вёскі Бабчын, што на Гомельшчыне, – і падумаць не маглі, што ў хуткім часе Мікола стане вядомым літаратарам і лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы за кнігу, назву якой дала гэтая самая вёска... Сам жа паэт, захоўваючы ў сэрцы любоў да малой радзімы, прапісаўся ў сталіцы – працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура», больш чым дзесяць гадоў узначальваў старэйшы літаратурны часопіс краіны «Полымя». І ўвесь гэты час не забываў пра гумар!*

*Мікалай Міхайлавіч умее дасціпна жартаваць рыфмаваным словам, таму яго вясёлыя вершы так любяць чытачы «Вожыка». Не адмовім ім у задавальненні чарговы раз усміхнуцца, а Мікалаю Міхайлавічу пажадаем яшчэ доўгіх і плённых гадоў жыцця, натхнення і аптымізму!*



*Сяброўскі шарж*
*Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*

## Мікола МЯТЛІЦКІ

### ПАПЛАВЕЦ

Той паплавец пад грушамі
Прабег нагамі босымі
Мой час, такі нязмушаны,
Шчэ не прагоркла-лёсавы.

Ён помны мёду сотамі
Здабытага чмялінага
І першай юнай цнотаю
Дзявочай пад калінаю.

Яшчэ ён помны – краскамі,
Што расцвіталі першымі,
І сонца шчырай ласкаю,
Ясенінскімі вершамі.

Капой духмянай сеннаю,
Калючаю пакошаю.
І радасцю праменнаю,
І песняю харошаю.

Яе спявала юная
Мая суседка Галачка,
І сэрца ўсімі струнамі
На песню адгукалася.

Вясна была зацёплаю,
І лета са спякотаю.
На тым квяцістым поплаве
Былі спатканні ўпотайкі.

Мая суседка ветлая
Умела цалавалася.
І песня яе светлая
У травах абрывалася.

### ПЕРШЫ ГАНАРАР

І я вясковым слыў паэтам,
Пісаў усячыну пра ўсіх,
Па вечарах, звычайна летам,
Чытаў сябрам чарговы «сціх».

І рогат плыў раскатна-гучны,
Грымотна біўся ў вокны хат.
Падлетак, з музай неразлучны,
Я праслаўляў грахі дзяўчат.

Купальнік у адной зацесны,
Парфума ў іншай – уцякай.
У гэтай, вунь, пагляд балесны,
Ну хоць ты доктарку гукай.

Магла, канешне, зацяжараць,
Чахоўскі ўецца кавалер.
На ўроках спіць і толькі марыць,
Як замуж выскачыць цяпер.

А ўчора ж у суседкі Галі
Ля вербаў ніцых і гнілых
Знянацку хлопцы цноту ўкралі
І падзялілі на траіх.

Мой голас вёў, парыўна-звонкі,
Такое часам выдаваў!
Жыцця інтымныя старонкі
Вачаста-зорка адкрываў.

Ухвальна хлопцы заўважалі:
– Замала «дзействующчых ліц!»
І шчэ нямала падказалі
З жыцця вясковага быліц.

Ды вось аднойчы каля хаты,
Дзе жыў каваль, – о, лёс цяжкі! –
Мяне ўзялі ў палон дзяўчаты,
І... захадзілі кулакі.

Трыко імкліва нейк сцягнулі
І галяка – о, сорам вам! –
За плот у крапіву шпурнулі,
Што парасла пякуча там.

Я нёсся садам кавалёвым,
«Удзячны» кожнаму вуллю,
І ў гэты момант быў гатовы
Хоць праваліцца пад зямлю.

І сорам днямі і начамі –
Не сверб крапіўны – пёк мяне.
Сябры пацешліва страчалі,
Пыталі: так было ці не?

Дзяўчатам помсціў з творчай сілай,
Паўсюль са мной ахова-раць.
Ды ўсё-ткі духу не хапіла
Пра выпадак той напісаць.

Пагаслі ўжо маленства промні,
І старасць дыхае мне ў твар,
Ды я з тугою светлай помню
За вершы першы «ганарар».






*Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*

Сваё **70-годдзе** *адзначыў пісьменнік, публіцыст, літаратурны крытык, кінасцэнарыст Уладзімір Пятровіч САЛАМАХА. На працягу чатырох гадоў (2004–2008) ён быў галоўным рэдактарам «Вожыка», ды і сёння – шчыры сябар выдання. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі. Працаваў Уладзімір Пятровіч у часопісе «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва», галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»...*

*Апавяданні і аповесці пісьменніка прыйшліся даспадобы чытачам у многім дзякуючы выкарыстанню гумару пры абмалёўцы характараў герояў. А мы можам з упэўненасцю засведчыць, што Уладзімір Пятровіч – сапраўдны майстар не толькі пісьмовага, але і вуснага гумарыстычнага слова. Слухаючы аповеды-былі з багатага на падзеі жыцця пісьменніка, немагчыма не ўсміхнуцца – так ярка, жыва, дасціпна, вобразна перадае ён сітуацыі і калізіі! Зычым творцы і надалей захоўваць бадзёрасць духу, аптымізм, а яшчэ – выдатную прафесійную форму.*

Твор юбіляра чытайце на стар. 6-9.






Той, хто ставіць пытанне рубам, сячэ з-за пляча.

Часам чуткі пра чорныя справы шытыя белымі ніткамі.

Замкнуты электраманцёр ніяк не мог наладзіць кантакт з калегамі.

Ці раўназначным будзе абмен, калі хлопец просіць у дзяўчыны рукі, а ўзамен прапануе сэрца?

Здараецца, і шэрая птушка нясе залатыя яйкі.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*



Аляксандр ШМІДТ.



Аляксандр ПЯТРОЎ.

# Вожыку пішуць...

**Добры дзень, дружа Вожык!**

Можа, памятаеш гісторыю пра трактар, у якім замест шасцерань у трансмісіі стаялі неапрацаваныя «паўфабрыкаты», а пад рулём ляжала паперка са словамі: «Прабач, брат, план гарэў!..»?

Мне тая прыгода згадалася падчас шпацыру па вуліцы Шаранговіча каля дома нумар 48, дзе колькі месяцаў таму з'явілася вось такая металічная агароджа *(гл. фота).* Лічы, уся абгародка (секцый, прынамсі, дваццаць–дваццаць пяць) усталяваная рамкай уніз, а апошняя (ці першая?) чамусьці – рамкай дагары. Нейкай тэхнічнай неабходнасці гэткага «перавароту» быццам і не відаць... Цікава, там таксама план гарэў ці што іншае здарылася?

*P. S.* Не паверыш, але такі ж плот я ўбачыў нядаўна і каля Акадэміі мастацтваў, на перакрыжаванні праспекта Незалежнасці і вуліцы Сурганава *(гл. фота).* Цяпер нават не ведаю, што і думаць...





**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

**Прывітанне, даражэнькі Вожык!**

У каторы раз пераконваюся, што класіка – вечная. Вось і я адразу ўзгадаў апавяданне Аркадзя Аверчанкі «Невылечныя», калі выпадкова пазнаёміўся з творчасцю беларускага фантаста Алега Рыбачанкі, які шмат друкуецца ў Расіі.

На старонцы аўтара на адным з літаратурных інтэрнэт-сайтаў знайшоў вялізную падборку яго твораў. Пералічваю некаторыя: «Хоттабыч против Игил», «Америка и Третий Рейх», «Флаг Родины Священной», «Сталин в Нью-Йорке – Гитлер в Москве», «Дарт Вейдер бомбит Игил», «Наполеон-Обама», а яшчэ – «Лев-попаданец», «Крокодил-попаданец», а таксама іншыя «пападанцы»: пчала, галактыка, малекула, прусак, кварк...

Анатацыі да раманаў таксама нібы Кукушкін з апавядання рускага класіка пісаў *(пунктуацыя аўтара захавана).*

«...Дональда гэта задаволіла. І ён разгарнуў абрус-самабор. На ім з'явіліся вытанчаныя стравы і цудоўныя віны. Тут было што з'есці і з чаго падзівіцца. Трамп запрасіў эльфіек да трапезы...» *(раман «Касмічныя прыгоды Трампа»).*

«...Душа Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Барака Хусэйна Абамы перанеслася ў цела Напалеона Банапарта на 1 ліпеня 1812 года. Цяпер лібералу нумар адзін давядзецца пабываць у шкуры вялікага імператара-заваёўніка...» *(раман «Напалеон-Абама»).*

«...Каб адшукаць ключык да перамогі над шалёным фюрарам, які не ведае межаў сілы, расійскага палкоўніка-інжынера Пятра Дзегцярова ўвасабляюць малекулай ДНК у галаве Гітлера...» *(раман «Малекула-пападанец»).*

Алег Рыбачанка спрабаваў змяніць тэму раманаў, аднак усё роўна атрымлівалася нешта накшталт «І ўсё закру...» Што тут можна сказаць: сапраўдная фантастыка! Фантастыка – тое, што адны людзі такія творы чытаюць, а іншыя часам нават друкуюць.

**Ігар ЖУК,**
*г. Брэст.*

**Братка Вожык!**

Шчыра скажу, я з зялёным зміем не вялікі сябар. Ну, ведаеш, толькі калі зарплата, ці калі наваселле ў каго, ці пасля лазні... Карацей, рэдка ўжываю. Ды і жонку маю... Але не пра мяне гаворка, а вось пра што.

Пайшоў я нядаўна ва ўніверсам па шкарпэткі, ну, і зазірнуў выпадкова ў вінна-гарэлачны аддзел. І што ўбачыў? Гарэлка «Паветра»! А ўнізе на этыкетцы – слоган: «П'еш як дыхаеш».

Медыцына сцвярджае, што дарослы чалавек удыхае паветра прыкладна 23 тысячы разоў у дзень. «Хіба столькі можна выпіць?» – задумаўся я. І тут жа прачытаў ніжэй: «Гарэлка насычаецца паветрам у вадаспадзе, падаючы з пяціметровай вышыні ў купажную ёмістасць. Перад разлівам лёгкая гарэлка «Паветра» адпачывае і дыхае




яшчэ на працягу чатырох—шасці гадзін, дзякуючы чаму і дасягаецца выбітная лёгкасць смаку».

У мяне аж у горле перасохла ад такога апісання. Крутнуў галавой: ахвоці мне, побач стаіць іншая бутэлька – «Самагонаў»! А на этыкетцы тлумачэнне для пакупніка, што такое дыстыляцыя. Ну, нібыта тэарэтычныя заняткі для будучых самагоншчыкаў. Можна потым, відаць, і практычныя... Навошта наступны раз набываць тое, што можна зрабіць самому?..

Карацей, уцёк я адтуль, ад гэтых спакуслівых назваў, апісанняў ды ўрокаў. А пакуль да выхада пёр, трапіў у парфумерны аддзел. І што ты думаеш, братка? Мне гэтая бутэлечка ледзьве не сама з паліцы ў рукі скочыла! Вось табе і «Сталічная», вось табе і парфум!..




Ледзьве вырваўся з таго ўніверсама, нават пра шкарпэткі забыўся. Удыхнуў на вуліцы свежага паветра ды задумаўся: няўжо нашыя мужчыны сапраўды хочуць толькі гэтага?..

**Яўген КАЛЮЧЫ,**
*г. Мінск.*

**Шаноўны Вожык!**

Я жыву побач з Лошыцкім паркам, з якім звязана шмат легенд. Адны кажуць, што тут можна ўбачыць прывід Ядвісі Кяневіч, жонкі апошняга гаспадара Лошыцкай сядзібы, якая ўтапілася ў 1905 годзе. Другія раяць прасіць шчасця ў заручальнага дуба. Трэція палохаюць гісторыяй пра русалак, што шукаюць жаніхоў у ціхай затоцы каля млына. Чацвёртыя, пачуўшы пра млын, узгадаюць яго абавязковых жыхароў – чарцей – і іх нелюбоў да п'яных. Аматар выпіць бачыць нячысцікаў толькі аднойчы: пасля небараку знаходзяць мёртвым...




Але мне падаецца, што тут хаваецца нешта рэальнае, горшае за неіснуючых істот, – нябачныя мастакі.

На рэштках млына ёсць шыльда з пазнакай, што гэта гісторыка-культурная каштоўнасць. Аднак такая акалічнасць не спыняе «творцаў»: сцены будынка спрэс сапсаваны надпісамі ды малюнкамі.

Некранутых камянёў застаецца ўсё менш. Вось і свежы надпіс з абрысамі елачкі: хтосьці прывітаў 2019 год. І гэта яшчэ далёка да доўгіх цёплых летніх вечароў...



З такімі людзьмі і нячыстай сілы не трэба. Яны самі любое месца, дзе знаходзяцца, могуць апаганіць.

**Ганна СКОРЫЧ,**
*г. Мінск.*

Уладзімір САЛАМАХА

# «Трынкен шнапс, гармонік шпілен...»

*Апавяданне*



## 1

Жыў у нашай вёсцы Ілля. Гадаваўся бязбацькавічам. Як толькі хлопчык нарадзіўся, яго бацька, нейкі гарманіст-прыблуда, што год таму невядома адкуль з'явіўся тут і прыстаў да сіраты, маладзенькай, той і васямнаццаці не было, Палінкі, раптоўна збег ад яе, нават не прыхапіўшы свайго абшарпанага гармоніка. Менавіта ігрой на тым гармоніку валацуга ачмурыў няшчасную. Пагаворвалі, што музыка нібыта раней служыў недзе артыстам, а ці так тое ці не – хто праверыць. Адно вядома, што Палінка, як здурнелая, на першай жа вечарынцы, ледзь той паманіў красуню, кінулася ў яго абдымкі, быццам у пролабку. Ды не доўга яна з ім мілавалася: нарадзілася дзіця, яшчэ ахрысціць не паспелі, а «артыста» і след прастыў. Казалі, што перад гэтым п'яны плявузгаў мужчынам, што яго таленту патрэбна прастора, новыя ўражанні. На гармоніку іграў і спяваў: «Здрастуй, дарога длінная, Здрастуй, зямля цалінная...» А неўзабаве – шукай ветру ў полі... Вырашылі, што ён з'ехаў на цаліну. Хаця якая розніца куды? Знік з вёскі музыка з завітым аўсяным чубам. А ў чубе тым ой як хораша тырчала якая-небудзь кветка: калі летам, дык жывая, а ў не сезон – засушаная. Мала што сам збег, дык зманіў з сабой мясцовага мужчыну Аляксея Грузда. Той, гіцаль, таксама пакінуў дзіця – хлопчыка Віціка.

Пагаравала Палінка, пагаравала, ды што рабіць, трэба ж неяк жыць, сына гадаваць, пайшла рабіць на ферму даяркай. Хлопцы вясковыя, хоць і дужа прыгожая яна была, падсміхваліся з маладухі, маўляў, кінулася на прыблуду, дык гаруй цяпер. Добра, што яшчэ дзіця не ў прыполе знайшла, як-ніяк, мужам кучаравы лічыўся... Сур'ёзна яны да Палінкі не ставіліся. Здаралася, які кавалер спрабаваў ноччу грукаць у яе дзверы, але атрымліваў ад варот паварот. Не, ніхто не мог на жанчынку кепскага слова сказаць. Не гуляла ні з кім. Можа, чакала, што кучаравы вернецца, а можа, апёкшыся, вырашыла, што досыць ёй адной ганьбы. Усё адно, здаралася, кабеты іншы раз, нечага раззлаваўшыся, кідалі жанчынцы ў вочы: «Дзіця нагуляла...»

І зрабілася Палінка нелюдзімай, усё з сынам ды з сынам. А той рос абібокам. Маці не прывучала да працы. Усё рабіла сама. І надта ж паганым расло хлапчанё. Якую толькі шкоду ні рабіў Ілля: і яблыні вяскоўцам аблатошваў, і спелыя клубніцы вытоптваў, і яйкі на курасаднях краў – пальцам не кранула сына: «Сірацінка ж пры жывым бацьку...» І вучылася тая сірацінка праз пень-калоду. А Палінка адно гаворыць: «Няхай: няздатны да навукі, затое як на гармоніку грае, не горш за бацьку. Усё, што толькі пачуе па радыё, тут жа з заплюшчанымі вачамі сыграе. А калі перадаюць, ну, як яе, тую музыку, што «блынь-блынь-блынь...» Ага, класічную, дык тады яго ад таго радыё за вушы не адцягнуць. Але, што праўда, то праўда: не дужа любіць польку, падэспань ці кракавяк... Ну тыя ігрышчы, пад якія ў нас на гулянках скачуць. Хаця і бацька не дужа такое любіў...»

– А іграў жа, – казаў хто-небудзь.

– Іграў. Карміла ж...

– Гэтую «блынь-блынь-блынь» няхай у горадзе слухаюць: там жа культу-у-рныя!. А нам і полька, і падэспань, і кракавяк добра...

І сапраўды, Ілля, яшчэ калі самаго з-за гармоніка не было відаць, так лоўка расцягваў мяхі ды перабіраў па гузіках пальчыкамі, што мала хто, слухаючы, як ён грае, мог



утрымацца, каб не прытопнуць нагой альбо не зацягнуць песню.

«Артыст, адным словам, артыст», — яшчэ тады, калі хлопчык толькі пачаў здзіўляць вяскоўцаў сваім талентам, зазначыў конюх Росцік Раманоўскі, сухенькі, аршын з шапкай мужчынка, але чалавек бывалы і паважаны. Дзіва што: Росцік, былы кавалерыст, адзіны з вясковых франтавікоў, як сам хваліўся, даскакаў (правер паспрабуй) ажно да Берліна, бачыў і чуў, што і пачым там, у Еўропах.

Гаварыў так Росцік, і папярэджваў:

— Вядома, калі галава на плячах, а не сядалішча. А то іншы, як той казаў, быў бы папом, ды галава кляпом...

Пры чым тут такая прымаўка, ніхто асабліва не задумваўся: кажа чалавек, няхай кажа...

А Ілля рос. Сталеў. Тут, ды ў навакольных вёсках усё больш набываў сабе славу сапраўднага музыкі, да якога ўсім (а іх усяго было двое дзядкоў) мясцовым гарманістам, як да месяца: рыпаюць невядома што, нібы на калёсах па брукаванцы тарабаняць. А гэты толькі возьме ў рукі інструмент, схіліць галаву да мяхоў — гармонік і заспявае, і заплача. А калі Ілля ў гуморы, дык яго «тулка» такое выкажа, што няма паратунку, як хораша... І дзе толькі якая гулянка — давай Іллю з гармонікам!.. На вяселлях іграў, на провадах у войска, радзінах, і нават на пахаваннях. На вяселлях, провадах і радзінах дык тое, што падабалася вяскоўцам. А вось на пахаваннях (толькі тых вяскоўцаў, хто раней меў хоць якую пасаду ў калгасе: заслужыў, як жа такога без музыкі праводзіць у апошні шлях?) тое, што загадваў Росцік. А загадваў ён іграць такое, ад чаго бабулькі пляваліся. Росціка яны называлі антыхрыстам і прасілі Усявышняга, каб дараваў Іллі, неразумнаму дзіцяці, чужы, перакінуты на яго грэх. Росцік жа тлумачыў мужчынам: «Трэба іграць такое, каб кожнаму чалавеку любой чужой нацыі было зразумела: памерла персона, для якой усе людзі — браты!» (Якой чужой нацыі людзі ў вёсцы?.. Але ж не быў бы то Росцік...) І ўсюды музыканту — чарачку, другую, трэцюю... Так і не заўважылі, як паступова спіўся Ілля. Спахапіліся аднойчы, як у пару восеньскіх вяселляў ехалі на вазку ў суседнюю вёску ў сельсавет распісваць маладых: Печаневага Валіка і Сідоркіну Вальку, Іллёвых аднакласнікаў. Ехалі, галёкалі, абдымаліся, цалаваліся. Росцік то прыспешваў парку кабылак, калі дарога была добрая, то прытрымліваў на калдобінах, а як выехалі з лесу на асфальт, пагнаў галопам ды запатрабаваў: «Ану-тка Ілля, урэж польку!» А той не ўрэзаў. Вось табе навіна: аслухаўся, ці што?.. Росцік спыніў кабылак, запрэжаных у вазок. Агледзеліся — няма музыкі. «Н-да, — зніякавеў Росцік, пацёр рукою ўзмакрэлую лысіну, крыху памаўчаў, затым нечакана выдаў:



*Працяг на стар. 8-9.*













Алег ПАПОЎ × 4.

Працяг. Пачатак на стар. 6.

*Трынкен шнапс, гармонік шпілен,*
*Ілля ляснуўся з кабылен...*

Ляснуўся, дык ляснуўся. Зарагаталі, маўляў, не трэба было загадзя налiваць яму. Але хiба не нальеш, калi калацiўся як асiнавы лiст? Iнструмент жа не слухаецца, бо рукi трасуцца. Загудзелi, загалёкалi: аказваецца, усе ведалi, што цвярозы Iлля ўжо даўно не iграе. Але маўчалi: няма ўжо ў акрузе музыкi, акрамя Iллi: тыя двое дзядкоў, што так-сяк некалi рыпалi на гармонiках, ужо адышлi ў лепшы свет.

Вярнулiся, знайшлi сярод лесу Iллю: без гармонiка, выкачаны ў гразi ледзь цягнуўся па дарозе. «Дзе струмент?! – трос яго загрудкi Росцiк. – Якое ж вяселле без музыкi!?..»

Якое, якое... Такое... Гармонiк не знайшлi – цi мала хто прайшоў-праехаў па той дарозе – Iллю грэблiва адштурхнулi: артыст з пагарэлага тэатра – ды пагналi кабылак да сельсавета...

I стаў пасля таго Iлля нiкому не патрэбны, акрамя мацi. Тая працавала на ферме, як i ўсе даяркi, рукамi даiла кароў. I ў няпоўныя сорак гадоў выглядала на ўсе шэсцьдзясят. Сын зусiм не слухаўся яе, адбiраў заробак. Прапiваў. А калi не аддавала, бiў бедалагу. Палiна ўтойвала гэта ад людзей. А калi тыя бачылi, што яна прыкрывае твар хусткай, здагадвалiся, чаму. Але чым ты ёй дапаможаш? Казалi, што сама вiнавата, як сын малы шкоду рабiў, нiколi на яго не насварылася, не шлёпнула.

Iлля днямi бадзяўся па вёсцы. Цiкаваў, дзе б гэта расстарацца хоць якой гары выпiць. А хто яму за так нальe? Тут, браце, як казаў Росцiк, за так нiхто табе на руку не плюне. У вёсцы пазаставалiся адны старыя цi па-



жылыя жыхары. Маладыя, хто не зломак, i нават нягеглiкi, даўно ў горад з'ехалi. А горад што? Ён, браце, разважаў той жа Росцiк, ненасытны. Ён падбiрае ўсiх, нават тых, хто ў вёсцы, як кажуць, «нi ў салдаты, нi ў матросы, нi падмазываць калёсы». Вунь колькi там такiх гальштукi паначэплiвалi, капелюшы панапнулi ды памянялi якую-небудзь крыўдную, але трапную вясковую мянушку на iмя па бацьку! Той жа, напрыклад, Пецька Даўгатовiч, Iллёў аднакласнiк, сябрук, з якiм, здаралася, чаркаваў i якога змалку звалi Вазгрывы, хвалiўся, што стаў Мiкалаевiчам. Аказваецца, неяк уплiшчыўся на завод. Нядоўга гайкi круцiў – i яго – у брыгадзiры!.. Так што i табе, Iлля, трэба ўзяцца за розум ды ногi ў рукi – i ў горад. Глядзiш, справу набудзеш, ажэнiшся, ачалавечышся.

Iлля не слухаў. Мабыць, у яго ў галаве было адно: дзе б выпiць. За так. Хто, гледзячы, як ён пакутуе, налiваў. Хто не адчыняў дзвярэй, хоць ты лоб аб iх размалацi! Але ж шкадавалi ўсе: на вачах гiне... Трэба ж нешта рабiць, неяк дапамагчы яму. Справай бы заняць, цi што. Але якой, калi Iлля нiчога не ўмее рабiць, акрамя як на гармонiку iграць? У поле яго на трактары не зацягнеш, гной капаць ён табе не будзе, ды i з сякерай нiкуды не пойдзе. Але вось падвярнулася справа: памёр стары Хiлька. Бяскрыўдны чалавек, бабыль, прыродай пакрыўджаны – нямко, вартаўнiк на ферме. Быў яшчэ адзiн абавязак у Хiлькi: некалi навучылi яго ўключаць i выключаць насос на воданапорнай вежы. Вежа тая давала ваду ферме, а заадно i вёсцы.

Так i апынуўся Iлля пры справе. Займеў закутак на ферме. Прывалок туды старую раскладушку. Кiнуў на яе сена – спi, кум каралю! А ранiцою, як праспiшся, тэпай у прыбудоўку да фермы, дзе стаiць насос, манометр ды дзве кнопкi на шчытках: «УКЛ» i «ВЫКЛ». Вось дзе хавалася цяпер гарэлкавая жыла для Iллi. Трэба выпiць: вадакачка не працуе. Значыць, няма вады ў хатах.

Людзi да Iллi: «Што здарылася?» – «Што, што, тэхнiка старая, паламалася. Трэба рамантаваць, але...» Разумелi, налiвалi. А Iлля ўсё больш натурыўся: давай, давай... Паступова так усiм абрыд, што пачалi вяскоўцы раiцца, як ад яго пазбавiцца. Росцiк прапаноўваў напiсаць пiсьмо ажно ў сталiцу, каб Iллю выслалi з вёскi. Нехта казаў, што трэба яго адправiць на кадзiраванне, маўляў, ёсць такое лячэнне. Хтосьцi прапаноўваў здаць на «хiмiю» – няхай, там за яго возьмуцца як след.

Здарылася так, што гэтую размову каля магазiна пачуў Мiшка Каменьчык, участковы. Раней Мiшка сюды рэдка заглядваў – усё шастаў па iншых вёсках, вялiкiх, людных. Зараз ён быў чамусьцi ў цывiльным i на падпiтку. Уступiўся за Iллю:

– Цемната, – асадзiў ён Росцiка. – Выслаць... Мы што, пры царскiм рэжыме? А ён што, палiтычны? Праўда, ссылалi i пры «бацьку ўсiх народаў». Хаця таксама не п'янтосаў.

– Але, – не здаваўся Росцiк, – i мы газеты чытаем. I тэлевiзар глядзiм. Ведаем, сашлюць катарага пры




цары — пасля ён — вялі-і-кі чалавек! Праўда, пры «бацьку ўсіх народаў» ніхто з нашай вёскі, каго саслалі, назад не вярнуўся. А якія ж гэта гаспадары былі! Жылі са свайго мазаля.

— Што ты раўняеш? Хіба нашы пілі ці ў палітыку лезлі? — абурыўся нехта.

— Дык што ж рабіць? — казаў Росцік. — Няўжо нельга прыструніць боўдзілу? Можа, усё ж сілком закадзіраваць? Ці чым прыстрашыць. А калі яго на «хімію»?

— Сілком нікога не перавыхаваеш, — уздыхнуў Мішка. — А кадзіраваць — ведаю з уласнай практыкі — пустое.

— А ты што, кадзіраваўся? — не сунімаўся Росцік.

— Яшчэ чаго! Я дапамагаў аднаму старшыні перад сяўбой везці механізатараў у горад на кадзіраванне. Дзе там! Старшыня нават паказваў асабісты прыклад, сам першы закадзіраваўся, затым заводзілі па адным хлопцаў. А яны — выйдзе каторы ад урача і тут жа замочыць гэтую акцыю. А вось хто сам за розум возьмецца, з таго толк. А каб чалавека на «хімію» адправіць, трэба суд. Тут, браце, трэба каб было зафіксавана злачынства.

— Дык што ж нам рабіць?

— Эх, жаніць бы яго! — параіў нехта. — Ды каб жанчына такая трапілася, якая б Іллю — у барановы рог! Ёсць жа бабы, што так сцісне мужыка — не прадыхнуць: паспрабуй пры такой папіць...

Ці праўда ці не, казалі, нібыта Пецьку Ката такая падабрала. Пра Пецьку ўсяго, што ведалі, дык тое ж самае: часцяком выпіваў з Іллёй, пакуль боўтаўся без справы ў вёсцы. Можа, таксама спіўся б, але ці то хто надавуміў, ці сам за розум узяўся — гадоў пяць таму з'ехаў у сталіцу. Ад'язджаў з худзенькім цалафанавым пакецікам у руках, у картовых штанах, абдрыпанай куртачцы. А зараз, як плявузгала Росцікава дачка Манька (яна ў горадзе замужам за нейкай шышкай), прыжаніўся, вылюднеў. А чаму? Ды нібыта Пецькава краля з яго вяроўкі віе. А як інакш з такім?

— Ажаніць? — зарагатаў Росцік. — Хто за такога пойдзе? Ды і дзевак у нас — як буран выкаціў. Хіба што Каця-крамніца. Але ж яна хоць і пярэстарка, а за такога ашавурка, як Ілля, не пойдзе. Манерная жанчынка, кажа, мне хаця б якога настаўніка, ці ахвіцэра, не менш. А так...

*Працяг у № 5 за 2019 год.*



Пётр КОЗІЧ.



Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.



Віктар КОХАН.



Юрый МІХАЙЛАЎ.




Алег ГУЦОЛ.

**Віктар РЭЧЫЦ**

## ЖЫВАЯ ДАВЕДКА



Пасля выпіскі стралой
Выскачыў з палаты.
Ледзь не подбегам гатоў
Сам ляцець дахаты.

Трэба вопратку забраць,
У падвал спусціцца.
Ды не хоча аддаваць
Рэчы маладзіца.

Заяўляе так яна:
– Мілы чалавеча,
Скуль магу дакладна знаць,
Што тут – вашы рэчы?

Медыцынскую сястру
На пасту знайдзіце.
І даведку з яе рук
Хутка прынясіце.

Я крыху зніякавеў,
У вачах – здзіўленне:
Падымацца зноў наверх,
Бегчы ў аддзяленне?

Ліфт, папраўдзе, на хаду,
Дабяруся шпарка.
Чартыхаюся. Іду.
Раптам – санітарка.

– Рая, мілая, пацвердзь:
Я лячыў тут сэрца!
– Гэта праўда Янак Верць! –
Крыкнула ў акенца.






## Гаршчок на гліну

*Асіповічы.* Нездарма кажуць: хто п'е, той гаршкі б'е. А хто і рэжа колы ў аўтамабілях, як нецвярозы малады чалавек пасля сустрэчы з сябрамі. Былі пашкоджаны 14 машын.

Аператыўнікі хутка затрымалі хулігана, нібыта футбольнага балельшчыка і сапраўднага ультрас, прыхільніка ідэй нацызму. Дарэчы, ён ужо не раз адказваў за нацыяналістычную і экстрэмісцкую дзейнасць.

На гэты раз у адносінах «звышчалавека» ўзбудзілі крымінальную справу. Змяніў гаршчок на гліну...



## Каму ўдача…

*Чачэрскі раён*. Памятаеце крылатую фразу кватэрнага злодзея Жоржа Міласлаўскага «Гэта я ўдачна зайшоў!» з фільма «Іван Васільевіч мяняе прафесію»? Вось і міліцыянеры завіталі да беспрацоўнага вяскоўца, каб адшукаць у яго дома самагон ці брагу, а знайшлі… наркатычнае зелле.

Што ж, каму шанцаванне, а каму пакаранне.



## Геракліт не памыліўся




*Наваполацк*. Геракліт сцвярджаў, што ў адну раку нельга ўвайсці двойчы. А вось тры аферысты задумалі прадаць чужую машыну другі раз. Па плане, адзін з іх прадаў аўто (і пакінуў сабе копію ключоў), другі – знайшоў выканаўцу, слесара СТА. Машыну ўкралі, схавалі на прыватнай станцыі, а затым перагналі ў гаражны кааператыў. Там ужо чакалі перакупшчыкі, каб пасля здзелкі збыць аўто ў Расіі...

Махляры ўжо прыцягваліся да адказнасці за злачынствы ў сферы аўтабізнесу. Словам, двойчы ўвайсці ў адну раку нельга, а вось адказваць за свае афёры даводзіцца кожны раз.

*Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*

## ХТО ПРЫНЁС У ДОМ РАЗВОД?

Франц і Ала развяліся,
А жанчына ўсё кляне:
– Каб ты, Франак, праваліўся!
Ой, паплачаш без мяне!

Вінаваціць Франца Ала,
Нібыта яго віна:
Не яна шлюб скасавала,
Разбурыла не яна.

Цяжка быць у захапленні,
Як на Алу паглядзець:
Неахайна так адзенне
Падабраць патрэбна ўмець.

Можа, проста ў шафе пуста?
Не, не пуста, бачыў сам.
«Для каго я буду з густам
Апранацца, як мадам?»

Франца лаяла няспынна,
Наравіла павучаць,
Бо лічыла: не павінна,
Маючы язык, маўчаць.

Пахваліць не ўмела мужа,
Далікатнасць праявіць.
«Хай лайдак спярша заслужыць!
Буду языком мянціць...»

Франак не стрываў цкавання,
Мусіў крок зрабіць назад.
Адкажыце на пытанне:
Хто ж у гэтым вінават?

Далажыла ўсё як ёсць
Маладзіцы Рая.
І пачулі мы: «Сваё
Хай ён забірае».

– Дзякуй, Рая, памагла, –
Ажывіўся зноў я. –
Ты даведкаю была
У мяне жывою!








# СТРАЛЯЦЬ — ДЫК СТРАЛЯЦЬ!



## СТРАЛЬБА (КУЛЯВАЯ І СТЭНДАВАЯ)

*...На гарышчы шматпавярховага дома ляжыць у засадзе кілер з вінтоўкай. Раптам з'яўляецца іншы чалавек. Моўчкі ўладкоўваецца каля суседняга акенца, дастае сваю «снайперку»... Пераглянуліся, прыцэліліся, пераглянуліся. Чакаюць...*

*Першы не вытрымлівае:*

*— Слухай, можаш паказаць фота кліента?*

*Другі павольна дастае з кішэні здымак, працягвае яму. Паўза...*

*Першы — з глыбокім здзіўленнем:*

*— Гэта ж наколькі трэба не любіць чалавека, каб так перастрахоўвацца!..*

Навошта так сурова, спытаеце? Ну, ведаеце, на першы погляд менавіта стральба мала чым нагадвае ўласна спорт. Нерухомая поза — вока не міргне, амаль непрыкметныя, скупыя рухі, ды на адным месцы: прыцэл павінен быць дакладны!.. Малавата дынамікі для спартыўнай барацьбы, ці не так?




Алег ГУЦОЛ.

Але, як кажуць, стральбе ўсе ўзросты пакорныя! Сталяюць усе: жанчыны — вачыма, мужчыны — цыгарэты. Страляюць у кіно, у тэатры і нават у мультфільмах. А што рабіць? Хіба дарэмна містэры Кольт і Маўзэр, таварышы Сцечкін і Калашнікаў вынаходзілі сваю зброю?

Дарэчы, вы ведаеце, што легендарны пісталет Мікалая Макарава стаў у свой час першай агнястрэльнай зброяй, якая пабывала ў космасе? Так-так, яшчэ на савецкім касмічным караблі «Усход» менавіта ён, ПМ, быў уключаны ў стандартны камплект маёмасці касманаўта! Навошта? Ну, вы наіўныя: хто ж выходзіць у адкрыты космас з голымі рукамі?..

*«І тут баец успомніў, што ў кішэні ў яго вінтоўка!..»*

*Са школьнага сачынення*

Стральба — гэта не паляванне, калі па дзікай жывёле ў лесе бабахаюць з двух стваловў. Хоць, зрэшты, і паляванне таксама можа ператварыцца ў сапраўдны спорт, калі патроны ўжо скончыліся, а дзік — цэлы і здаровы. Прывітанне, марафон на доўгую дыстанцыю!

Таму факт ёсць факт: стральба — гэта спорт. І спорт алімпійскі: спаборніцтвы па кулявой стральбе былі ўключаны ў праграму Алімпійскіх гульняў яшчэ ў 1896 годзе ў Афінах, а праз год пачалі праводзіцца і чэмпіянаты свету. Каманда СССР упершыню прыняла ўдзел у Алімпіядзе толькі ў 1952 годзе (Хельсінкі, Фінляндыя). Ну, а беларусы (у камандным саставе зборнай Саюза і пазней) не аднойчы выйгравалі і золата, і срэбра, і бронзу. Хто гэтыя героі? Ды, калі ласка (называю па памяці): Аляксандр Газаў, Канстанцін Лукашык (17-гадовы навучэнец Гродзенскага электратэхнічнага ліцэя, які атрымаў заслужанае золата па кулявой стральбе на Алімпіядзе-1992 у іспанскай Барселоне), Аляксандр Кядзяраў, Ігар Басінскі, Сяргей Мартынаў... А яшчэ нашы любімыя снайперкі — Ірына Шылава (залаты медаль у Сеуле, Паўднёвая Карэя, 1988 год) і Лаліта Яўглеўская, цяперашнія фаварыткі Вікторыя Чайка (пнеўматычны пісталет) і Марыя Мартынава (пнеўматыка і «мелкашка»), дачка алімпійскага чэмпіёна Сяргея Мартынава!

Карацей, запісвайце: 22 і 28 чэрвеня 2019 года вас чакае мінскі Спартыўна-стралковы комплекс імя маршала С. Цімашэнкі. Самі ўсё ўбачыце. Ды і кошт білетаў на спаборніцтвы па кулявой стральбе – нейкіх 7–15 рублёў. Абавязкова схадзіце!

### *Птушачку ўсё-ткі шкада...*

Мяркуючы па звестках з гісторыі, з чаго толькі не палілі раней на сусветных Алімпіядах! Са стандартнага ці двубойнага пісталета, з рэвальвера, са звычайнай стрэльбы, з армейскай ці малакаліберной вінтоўкі... Што толькі ні дзіравілі пры гэтым: самапальныя мішэні, малюнкі беглых аленяў-казуль-дзікоў, а таксама гліняныя фігуркі (у выглядзе, зразумела, братоў нашых меншых)...

Здаралася, што смалілі нават у жывых птушак. Так, у 1900 годзе ў Парыжы цэлае трыа тагачасных медалістаў падчас спаборніцтваў падстрэліла аж 59 галубоў, чым выклікала бурную незадаволенасць мірных грамадзян.

Неяк за відавочную жорсткасць стэндавую стральбу нават выключалі з праграмы Алімпійскіх гульняў!.. Аднак з часам чалавек дадумаўся замяніць безабаронных небарак-галубкоў на адмысловыя «лятучыя сподачкі» – і людзі зноў пачалі падцягвацца на трыбуны...

## СТРАЛЬБА З ЛУКА

Нагаварыў мех і торбу, ды ледзьве не забыўся расказаць яшчэ і пра стральбу з лука. Няхай мне прабачаць і грэцкая багіня Артэміда, і адважны абаронца беднаты Робін Гуд, і Чынгачгук (са сваім «бацькам» Джэймсам Фенімoрам Куперам), і Легалас (з Джонам Р. Р. Толкіенам), і югаслаўскі акцёр, «сусветны індзеец» Гойка Міціч, а таксама жыхары цэлай краіны Бутан, дзе стральба з лука з даўняга часу з'яўляецца нацыянальным відам спорту.

А яшчэ менавіта да стральбы з лука ўпершыню былі дапушчаны прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва! Так-так, у 1904 годзе на летніх Алімпійскіх гульнях у амерыканскім Сэнт-Луісе лучніца Эліза Поллак атрымала першую жаночую перамогу ва «ўмелым нацягванні цецівы і дакладным стрэлапусканні». Кабета стала чэмпіёнкай у камандным першынстве і выйграла дзве бронзавыя ўзнагароды ў індывідуальных спаборніцтвах. І было ёй усяго нейкіх 64 гадочкі...



### *Падстрэліў...*

*(Рэальная, вясёлая і не спартыўная гісторыя)*

У адным правінцыйным тэатры ставіўся спектакль, у якім быў такі момант: князь страляе ўгару – і неўзабаве да яго ног валіцца птушка, працятая стралой. Птушку тую скідваў адзін дзядок, рабочы сцэны, узлезшы папярэдне на тэатральныя антрэсолі. Але там было так цёпла і ўтульна, што аднойчы дзядуля папросту заснуў. Ну, узрост усё-ткі...

І вось ідзе спектакль. У патрэбны момант князь дастае стралу і пускае яе ўгару... Нічога, зразумела, не адбываецца. Акцёр, робячы выгляд, што так і павінна быць, выпускае другую стралу... Ізноў цішыня. Тады князь дастае трэцюю стралу, доўга-доўга цаляе, страляе... З неба валіцца валёнак.

Заслона...

**Вядучы рубрыкі аматар спорту**
**Аляксандр ЗОТАЎ.**

*Працяг у наступным нумары.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

# Прыпеўкі

Як была я маладой,
Хлопцы да мяне гурбой.
А на пенсію пайшла –
Нават дзеда не знайшла.

* * *

Пра Івана ходзіць слава,
Што кахае моцна Клава.
Толькі вось за што кахае –
І сама яна не знае.



* * *

У пасёлак наш на днях
Сват прыехаў на санях.
Так, нябога, хваляваўся,
Выпіў – і ў санях застаўся.



* * *

Нашай фірмы кіраўнік
Нечакана дзесьці знік.
Мы яго шукалі тыдзень,
Ён жа піў у бары, злыдзень.

* * *

Як Арцём мяне кахаў –
Ў маёй хаце прападаў.
А як пакахаў Арыну –
Прэцца да яе ў адрыну.



* * *

Неяк ранкам у суботу
Плёўся Янка на работу.
Ў галаве – пчаліны рой:
Тыдзень цягнецца запой!



* * *

Нас, жанчын, у хоры восем,
Каптаны старыя носім.
Хоць і хораша спяваем,
Новых ўсё не прычакаем.



* * *

Неяк днямі мы на сходзе
П'янству гаварылі «годзе».
Як з рашэннем тым змірыцца?
Вырашылі ўсе... напіцца!

**Праспяваў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Алег ГУЦОЛ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ і Ганад ЧАРКАЗЯН.

# Як Тадорка парасят дзяліла



**Раіса ДЗЕЙКУН**

*Быль*

Аднойчы мае знаёмыя, якія нядаўна пажаніліся – Аркадзь з Кацярынай – прыехалі да яе бацькоў у вёску. Тыя, вядома, адразу дарагіх гасцей пасадзілі за стол. А на стол – усё лепшае: і саленні-марынаванні, і булачкі-пернікі, і, вядома, скварка з чаркай. А пах... Акно расчынена – на ўсю вуліцу!..

Не паспелі госці за сталом уладкавацца, як у хату ўляцела суседка, сваячка Тадорка (тая, што дзясятая вада на кісялі). Ну, што ж, і яе за стол запрасілі: «Сядай і ты, Тадора, радасць у нас!»

Сказаўшы гэта, Аркадзеў цесць падсунуў жанчыне крэсла бліжэй да стала ды чарачку наліў.

Выпіла жанчына, расчырванелася, хустку скінула. Вочы яе заблішчэлі, па стале шнырачы, выглядваючы, дзе што смачнейшае стаіць. А тады і кажа:

– У мяне ж, людцы, надоечы свіння апарасілася! Вось я і забеглася, каб параіцца, як парасят падзяліць ды нікога не пакрыўдзіць?

– Ну, гэта ты сама вырашай, – спакойна адказала Аркадзева цешча. – Ты ж гаспадыня.

– Але, – нібы пагадзілася з ёй Тадорка. – Вось і думаю, як.

Яна раптам узняла левую руку і пачала на правай загінаць пальцы:

– Ганьцы, дачушцы – парсючок... Нюрцы, дачушцы – таксама парсючок... Вам, дарагія мае суседзі – свіначка, такая поўненькая, ружовенькая... Брату Хведару – таксама свіначка, праўда, худзейшая... І сястру сваю Параску не пакрыўджу – парсючок ёй... – Тут Тадорцы не хапіла пальцаў і яна з левай рукі перайшла на правую, ласкава паглядзела на маладых. – А табе, Кацярына, і твайму чалавеку – ажно двое парсючкоў. І дзеткам вашым...

Аркадзеў цесць, слухаючы Тадорку, задаволена заўсміхаўся, зноў наліў ёй чарачку, а цешча падсунула талерку з каўбасой: «Частуйся, Тадорка, не саромся, частуйся...» А ў хаце, нібыта песня, усё чулася: «Парсючок, парсючок, свіначка...»

– Але, дзеткам вашым... – выпіўшы чарговую чарку і прыкусіўшы, працягвала загінаць пальцы на правай руцэ Тадорка.

– Цётка, – раптам перабіў яе Аркадзь, – а колькі ж свіння парасят прынесла?

– О, Аркадзька, ажно пяцёра!

– Дык тады нам з Кацяй і аднаго добра, бо астатнім не хопіць, – заклапочана развёў рукамі Аркадзь. – Ды і трымаць асабліва няма дзе ў горадзе: балкон у нас маленькі.

– Ат, што гэта я тут забавілася? – раптам спахапілася Тадорка, хуценька кульнуўшы без запрашэння трэцюю чарку і, нават не прыкусіўшы, ускочыла. – Некалі! Пабягу, трэба свінні крапівы нарваць, ды тое-сёе... – і куляй вылецела з хаты.

– Стары дурань! – накінулася на мужа Аркадзева цешча. – Ты што, забыў, якая яна, Тадорка? Дзе госці – там і яна. І давай плесці.

– Забыў! – амаль закрычаў цесць. – Можа, і забыў... Не пра яе думаў, пра дачку і зяця. А ты? Яна ж твая сваячка. Во!.. Ты і адказвай!

– Супакойцеся, – заўсміхаўся Аркадзь. – Гэткай бяды! А парсючка мы падгадуем...

Праз колькі часу зноў прыехалі дачка з зяцем да яе бацькоў. І зноў – багаты стол, пахі на ўсю вуліцу, вясёлая гамонка... І Тадорка, за стол сесці не паспелі, ужо стаіць у хаце на парозе.

– Гэта ж я гляджу: машына каля хаты спынілася. Гэта ж госцейкі дарагія прыехалі, думаю. А ў мяне якраз свіння апарасілася...

– О, то добра, цётачка, – узняўся Аркадзь насустрач кабеце ды падаў Тадорцы скрутак мяшкоў. – А то наш парсючок, якога ты нам мінулы раз дала – вырас, на балконе ўжо і павярнуцца не мог, дык асвежавалі яго. А тут мяшкоў хопіць і нам на свінку, і дзеткам нашым на парсючкоў. Нічога, пакуль малыя, на балконе патрымаем, а там у кватэру перавядзём. Бяры мяхі, цётачка.

– А вой жа, – пляснула рукамі Тадорка, – як памяць згубіла! Мяне ж у тым канцы вёскі сяброўка мая чакае, Маруся. Я ёй абяцала дапамагчы грады палоць. Пабягу!..

І выскачыла з хаты.

– Зяцёк, а зяцёк, – сказала цешча. – Бачу, сумкі ў вас з Кацяй напакаваныя. Свежыны з Тадорчынага парсючка прывезлі?

– Прывезлі... А як жа, – заўсміхаўся зяць. – З базару.

– Ну тады не распакоўвайце, калі з базару. У нас сваёй хопіць: мы ж тады, як Тадорка парасят дзяліла, парсючка купілі. У Маркі, суседа, – патлумачыла цешча. – Бо Тадорчыным яшчэ расці і расці...

І зноў у хаце, нібыта песня, усё чулася: «Парсючок, парсючок, свіначка...»



*г. Гомель.*

# ВЯСЁЛЫ СЛОЎНІК

Адрэзак — луста.

Вяршыць — пісаць вершы.

Гатавальня — кухня.

Жалейка — сквапная жанчына.

Зборнік — калекцыянер.

Кампосцер — спецыяліст па нарыхтоўцы кампосту.

Малюнак — невысокі юнак.

Манішка — хлусня.

Небарака — адсутнасць у чалавека жылля.

Падрадчык — цырульнік.

Снегаход — лыжнік.

Узлесак — лесвіца.

Універсам — выпускнік універсітэта, які скончыў яго сам, без блату.




Пілавінне — жанчына, якая выпіла віна.



**Заўважыў Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Анастасія СКАРКО і Міхась СТЭФАНЕНКА.

## Знарок не прыдумаеш

«На месца здарэння выехалі падраздзяленні пажарных, у выніку агнём знішчаны дом».

*(З даведкі.)*

«Нябожчык пражываў па вуліцы Валадарскага, труп якога накіраваны ў морг».

*(З допісу ў рэдакцыю.)*

«Да ўвагі пацыентаў: перш чым пачынаць лячэнне зубоў, іх неабходна вырваць».

*(З аб'явы ў бальніцы.)*

«Мэта мерапрыемства — прыцягнуць усіх жыхароў пасёлка на тэхагляд».

«У трупа, які пражываў адзін, высвятляецца прычына смерці».

*(З пратаколаў.)*

«Куплю аўтамабіль на запчасткі для сябе».

*(З аб'явы.)*

**Выпісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




## Дзе ты, мой каханы?

Я працую ў вёсцы.
Ёсць у нас тут хлопцы:
Ясь, Міхась, Сямён, Ягор...
Выйсці замуж за каго?
За Сямёна не пайду –
Наганяе ён нуду.
Пры Івану-скнары
Не відаць Канараў.
Міша любіць танцы,
Ды баіцца працы.
Дзе Ягор, там пляшка –
Разлучыць іх цяжка.
Працавіты ёсць Антон,
Але ўжо жанаты ён.
Што рабіць, куды пайсці,
Дзе каханага знайсці?
Можа, будзе нейкі толк:
Еду ў аграгарадок!





Уладзімір **ФІЛАТАЎ**,
*г. Мінск.*

## Сатырычныя шрацінкі

### Пустамеля

Ён языком такое зробіць,
Што пазайздросцяць і майстры.
На справе ж праўды там на дробязь,
А вось хлусні – пуды са тры.

### Неахайніца

Стаяць нямытыя талеркі,
І павуцінне па кутах,
А гаспадыня да люстэрка
То сяк павернецца, то так.



### Ласун

Заглядваў у збаны, гаршкі
І соваў нос у гладышы ён,
Быў вельмі ласы на вяршкі
І звычай меў знімаць чужыя.



### Выпівоха

З любой зачэпкі і нагоды
Падняць ён чарачку любіў.
Хоць за здароўе піў заўсёды,
Якраз здароўе і згубіў.



Вера **МІХНО**,
*Мінскі раён,*
*в. Бараўляны.*

### Янкава бяда

Жонка мужа дакарае,
Штосьці ў пінжаку шукае:
«Куды грошы ты падзеў?
Ці прапіў, ці мо праеў?»

А палучка ўся прапала,
Дый было яе замала.
Браў гарэлку ў магазіне –
Вінаваты грошы Зіне.

Заракаўся – піць не будзе,
Ды навокал п'юць жа людзі.
Можа, мусіў напівацца,
Каб ад мас не адрывацца?



Альдонія **НАЎЧАНКОВА**,
*Стаўбцоўскі раён,*
*в. Пільніца.*



Пётр КОЗІЧ.



# КАР-РЫКАТУРЫ


Пётр КОЗІЧ.


Алег КАРПОВІЧ.


Аляксандр ШМІДТ.


Аляксандр ШМІДТ.


Анастасія СКАРКО.




**Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ**

# Вясёлыя хвілінкі

## Куды схавалі?

Мілана з дзядулем гуляюць па парку. Дзяўчынка ўбачыла вялізны пень, ускочыла на яго і пачала танцаваць.

– Бачыш, – кажа дзядуля, – тут калісьці расло вялікае прыгожае дрэва, але яго спілавалі. Застаўся толькі пень.

– А куды ж дрэва схавалі? – азіраецца па баках малая.

## Няўдалы падман

Мілана папрасіла ў мамы рэльефную драўляную карціну, якая вісела на сцяне ў калідоры, каб пагуляць з ёй.

– Трымай, – дазволіла маці і папярэдзіла. – Толькі асцярожна, не зламай!

Праз некалькі хвілін Мілана прыбегла з паламанай карцінай.

– Гэта Ромка зламаў, – са слязьмі на вачах паведаміла яна.

– Ромка? – не паверыла маці. – А хто падманвае?

– Мілана! – яшчэ мацней заплакала дзяўчынка.



## Дзед-неслух

Дзядуля ў добрым настроі прыйшоў у госці да Міланы, а тая сядзіць за пісьмовым сталом і штосьці засяроджана малюе, не звяртаючы на яго ніякай увагі.

Дзед выглядвае з-за вугла і жартаўліва кажа:

– Тук-тук, хто ў хатцы жыве? Можа, маленькая мышка-нарушка?

Мілана абыякава зірнула і зноў схілілася над лістком паперы.

Тады дзед падкраўся да малой з іншага боку і густым басам прамовіў:

– А гэта я, злы воўк. Зараз з'ем цябе!

Дзяўчынка нехаця адарвалася ад малюнка, сур'ёзна паглядзела на дзеда і абурана прамовіла:

– Супакойся, дзядуля! Вельмі дрэнныя паводзіны сёння!



## Шчодрая малпачка

– Мама, дай цукерку! – просіць Рома.

– Не дам, ты яшчэ суп не еў.

– А малпачцы дасі? – пытае Рома і працягвае ёй мяккую цацку.

– Малпачку пачастую. Яна малайчына, увесь суп з'ела, – пажартавала маці.

Рома моўчкі ўзяў цукерку, любімую цацку і пайшоў у другі пакой. Праз дзве хвіліны зноў вярнуўся:

– Малпачка адмовілася ад цукеркі. Яна хоча, каб я з'еў.



## Сонейка замерзла

Мілана захоплена малюе рознакаляровымі алоўкамі. Затым паказвае малюнак з сінім сонейкам.

– Павесіш яго на сцяну? – пытаецца малая.

– Не, не павешу, – адказвае бабуля. – Ты няправільна намалявала. Сонейка не бывае сінім. Сонейка можа быць толькі жоўтым, ружовым, аранжавым, чырвоным...

– Бабуля, ты нічога не разумееш. Яно ж замерзла! – тлумачыць дзяўчынка.

*Працяг на стар. 20.*

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 19.*

## Мяў, гаў і… хрум!



Дзед пытаецца ў Міланы:
– Як коцік гаворыць?
– Мяў-мяў!
– А сабачка?
– Гаў-гаў!
– А морква? – жартуе дзед.
– Хрум-хрум! – не задумваючыся, адказвае ўнучка.






Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Дрэнная прыкмета

Рома марудна цягне па паркавай алеі вялізны дзіцячы грузавік. Раптам з-за кустоў выскоквае маленькае белае кацянё, спалохана праносіцца побач і залазіць на дрэва.

– Навошта ты мяне так апранула, мама? – усхвалявана пытаецца малы.

– А што не так?

– Коцік выйшаў пагуляць і бачыць, што іду я з чорнай машынай, у чорных ботах, у чорных штанах, у чорнай куртцы...

– І што?

– Кот падумаў, што чорны чалавек – гэта вельмі дрэнная прыкмета, – сур'ёзна паведаміў сын.



*г. Брэст.*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

**Уладзімір МАЗГО**

## АКРАЗАГАДКІ

**Д**омік летні між прысад,
**А**гарод, зялёны сад
**Ч**аста вельмі клічуць нас
**А**дпачыць у вольны час.

(Дача.)

**З**вярок шукае ў лесе схоў
**А**д паляўнічых і ваўкоў.
**Я**го завуць касым здавён.
**Ц**і здагадаліся, хто ён?

(Заяц.)

**С**ветлы, лёгкі, нібы пух,
**Н**ечакана лёг на луг.
**Е**дзем зноў на лыжах мы...
**Г**олас чуецца зімы.

(Снег.)

**Р**ада з намі пагуляць.
**Э**х, яго нам не дагнаць!
**Х**оць жыве ў суседнім лесе,
**А** да нас дражніцца лезе.

(Рэха.)




Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Калі жартуе Лесавік...

Апроч багоў, вадзіліся ў нашых мясцінах і больш дробныя міфічныя істоты, так званыя духі. У кожным лесе, у кожнай рэчцы ці возеры, нават у кожнай хаце жыў свой дух. Паколькі лясоў, вадаёмаў з балотамі ды хатаў на беларускай зямлі хапала, дык і духаў было лічыць не злічыць. Вядома, да узроўню багоў яны не дацягвалі, але таксама патрабавалі ад людзей і шанавання, і пачастункаў. Што зробіш? Даводзілася дагаджаць: міфічныя стварэнні, як ніяк...

Дух лесу называўся, як вы здагадаліся, Лесавік і жыў у лесе. У адным бары — адзін, у другім — іншы, у трэцім — яшчэ... Такім чынам, у кожным лесе дыхаў персанальны Лесавік.

Чым гусцейшы быў гай, тым Лесавік лічыўся больш «крутым». Зразумела, што самыя магутныя (а значыцца, і самыя «дзелавыя») духі мелі пастаянную прапіску ў спрадвечных пушчах.

А вось рост у любога з лесавікоў быў непастаянны. Калі лесам ішоў — то роўным з вершалінамі самых высокіх дрэў здаваўся. Як на поле трапляў — з травы яго не ўбачыш, такім маленькім адразу ж рабіўся на «замежнай» тэрыторыі. І толькі цень духа выдаваў: заставаўся па-ранейшаму вялізным.



Наогул, знешнасць Лесавіка людзі па-рознаму апісвалі. Адны казалі, што ён — волат, увесь мохам ды поўсцю зарос. Вочы ў яго круглыя і агнём гараць, на руках і нагах — кіпцюры вострыя. Ідзе праз лес напрасткі, дрэвы ламаючы, а за ім зграі ваўкоў бягуць, совы да груганы над галавой злавесна кружаць... Словам, жах ды толькі!.. Іншым жа ўяўляўся сівенькім дзядком у простым белым адзенні. І пазнаць яго толькі па тым можна было, што чым далей ён ад чалавека адыходзіў, тым большым рабіўся.

Знарок людзям Лесавік не шкодзіў. (Праўда, паляўнічых дужа не любіў. Дык і не дзіва...) Але мог з чалавекам па-свойму жартаваць: ці напалохаць, ці павадзіць гадзінамі па крузе... Так сабе жарты, скажам шчыра, ды — дух, міфічнае стварэнне... Супраць такіх жартаў існаваў надзейны сродак: трэба было неадкладна пераапрануць што-небудзь з адзення навыварат альбо павярнуць капялюш брылём назад. Ці абутак перамяніць: з левай нагі на правую, а з правай — на левую. Гэтак і мазалі нядоўга было нацерці, затое дзейнічала, кажуць, на сто працэнтаў.

А яшчэ, калі людзі ў лес заходзілі, заўсёды мелі з сабой кавалачак бліна, каб на першую ж галінку яго начапіць. Пачастунак для Лесавіка. Тады лясны гаспадар станавіўся лагодны, мог паказаць чалавеку багатыя грыбныя ці ягадныя мясціны альбо нават скарб, што ў лесе з даўніх часоў прыхаваны. І ўсё гэта за адзін толькі кавалачак бліна, уяўляеце?! А калі цэлым блінам пачаставаць?

Але людзі гэтай акалічнасцю не злоўжывалі. Не асабліва дамагаліся ад Лесавіка такой ласкі. Не жартуе з табой у лесе — і за тое дзякуй! А мы, маўляў, і грыбамі ды ягадамі будзем багатыя!..



# Танцы ў марцы

*Крыжаванка*




**Па гарызанталі:**

**1.** Танец, які ўмеюць танцаваць і дзеці, і дарослыя. **5.** У адрозненне ад яго, чалавек усіх не абагрэе. **7.** Сухі марац, мокры ... – будзе жыта, як гай *(прыказка)*. **8.** Дрэва, параўнанне з якім узрадуе толькі дурня. **11.** Песня, што бацькі спяваюць дзіцяці і першымі пад яе засынаюць. **15.** Добры брат сатыры. **16.** ... – не каляска, сеўшы, не паедзеш *(прыказка).* **17.** Ведаць ... (разбірацца ў чым-небудзь з веданнем справы). **18.** І смех і ... **21.** Універсальны сродак ад дзіцячых слёз. **22.** Бурштын з расійскім пашпартам. **27.** Спартсмен, які не любіць няспешную хаду. **30.** Часціца, асабіста знаёмая з электрычнасцю. **31.** Улюбёны верш падхаліма. **32.** У мінулым жыцці ён быў агароднінай ці садавінай. **33.** Калі смех працягвае жыццё, то гэты чалавек – бессмяротны. **34.** Дзякуючы ёй чорныя кошкі кіруюць людзьмі.

**Па вертыкалі:**

**2.** Пакуль чалавек шукае, дзе лепш, яна шукае, дзе глыбей. **3.** Птушка, якая прыносіць на крылах вясну. **4.** Без гэтай стравы цяжка ўявіць стол на Вялікдзень. **6.** Першая рыфма да слова «хлеба» ў паэта-пачаткоўца. **8.** Багністае

месца, куды лепш не сунуцца жывой істоце. **9.** Дробнае насякомае-шкоднік, у душы вегатарыянец. **10.** Любімая фарба для валасоў у ведзьмы. **12.** Для заказаных іх заўсёды мала. **13.** Сапраўдны ... прымусіць купіць і тое, што непатрэбна. **14.** У чым ... нарадзіла. **19.** «Прамакаюць ..., // Расцвітаюць коцікі...» *(з верша С. Грахоўскага «Сакавік»).* **20.** У казках пасля поўначы яна здольна ператварацца ў гарбуз. **23.** Працаваць, як чорны ... **24.** «Уцякай, ...-дзядуля! // Чуеш ты, стары, ці не? // На пагорках — булі-гулі! — // Песні чуюцца вясне» *(з верша Я. Коласа «Песня аб вясне»).* **25.** «Я думаў, што апусціўся на самае ..., як раптам знізу пастукалі» *(С. Е. Лец).* **26.** Майстар ад прыроды замятаць сляды. **27.** ... клінам сышоўся. **28.** Абавязковы элемент цырульніцкага жаночага дрэс-кода на Русі. **29.** Месца прагулак героя песні групы «Любэ» з канём. Там, дзе шукаюць вецер.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

*Адказы на старонцы 24.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Пётр КОЗІЧ.



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




## Авен

Завадны і ініцыятыўны. Непаседа. Аддае перавагу актыўнаму адпачынку. Любіць рух, дынаміку, разнастайнасць.







Анастасія СКАРКО.

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 4 (1567), 2019 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*, Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 244-92-37, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны, 748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 09.04.2019. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,48. Тыраж 605 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.



### *Адказы на крыжаванку «Танцы ў марцы» (стар. 22–23):*

**Па гарызанталі: 1.** Карагод. **5.** Сонейка. **7.** Май. **8.** Дуб. **11.** Калыханка. **15.** Гумар. **16.** Ласка. **17.** Толк. **18.** Грэх. **21.** Цацка. **22.** Янтар. **27.** Скорaснік. **30.** Іон. **31.** Ода. **32.** Сок. **33.** Рагатун. **34.** Прымета.

**Па вертыкалі: 2.** Рыба. **3.** Грак. **4.** Пасха. **6.** Неба. **8.** Дрыгва. **9.** Тля. **10.** Хна. **12.** Пацалункі. **13.** Камерсант. **14.** Маці. **19.** Боцікі. **20.** Карэта. **23.** Вол. **24.** Мароз. **25.** Дно. **26.** Снег. **27.** Свет. **28.** Косы. **29.** Поле.